© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ◆ Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі ◆

 **СВЕТ**  **БССР**  **ПОЛЬШЧА** **ВАЯВОДСТВА**

## ІНВЕСТЫЦЫЙНАЯ ПРАГРАМА СССР

Аж 92,5 мільярда рублёў будзе выдаткавана ў бягучым годзе ў Савецкім Саюзе на пабудову новых заводаў і фабрык, на рэканструкцыю і мадэрнізацыю ўжо існуючых і на павышэнне тэхнічнага забеспячэння сельскай гаспадаркі.

Зараз прамысловасць Савецкага Саюза прадукуе ў дзень тавараў на 2 мільярды рублёў.

Прадугледжваецца, што ў гэтым годзе будзе выраблягца на 12 мільёнаў кілаватаў электраэнергіі больш, што пабудуецца 5.100 кіламетраў новых нафтаправодаў, на 30 мільёнаў тон павялічыцца колькасць выдабываемай жалезнай руды, а прадукцыйная здольнасць аўтамабільнай прамысловасці павялічыцца на 220 тыс. аўтамабіляў.

Да найвялікшых будоўляў 1972 года залічваюцца: фабрыка грузавых аўтамабіляў над Камай; фабрыка легкавых аўтамабіляў у Тальяці, дзе прадукуецца «Жыгулі»; найвялікшая электрастанцыя Сярэдняй Азіі ў Нурэцку, нафтаправод Ухта-Яраслаў даўжынёй 1.135 км; вялікая фабрыка трактарных прычэпаў у Орску, прадукцыйная здольнасць якой 50 тысяч камплектаў прычэп з дапушчальнай нагрузкай 20 тон.

## СТРАТЫ Ў В'ЕТНАМЕ...

У 1971 годзе войскі Злучаных Штатаў Амерыкі і іх спадарожнікаў страцілі ў паўднёвым В'етнаме каля 250 тысяч людзей.

У гэтым жа годзе амерыканцы прымянілі газы і атрутныя субстанцыі ў 20 правінцыях паўднёвага В'етнама. У выніку гэтага знішчаны лясы, агароды, плантацыі рысу і іншых раслін на плошчы 475 тыс. гектараў. Атручаны 173 тысячы чалавек.

## ... І Ў ЛАОСЕ

Нацыянальна-вызваленчая армія Лаоса ў 1971 годзе вывела са строю 42 тысячы салдат і афіцэраў праціўніка. У гэтым ліку знаходзіцца 16 тысяч салдат тзв. спецыяльных сіл, больш 5,7 тысячы сіямскіх наймітаў і больш 16 тысяч амерыканскіх і сайгонскіх салдат.

## НАЛЁТЫ НА ДРВ

Амерыканская ваенная авіяцыя ўсё часцей робіць налёты на Дэмакратычную Рэспубліку В'етнам. Апошнія бамбардзіроўкі былі найбольшымі. Дагэтуль лічылася, што найвялікшыя налёты адбываліся ў часы прэзідэнтуры Джонсана, калі над ДРВ у дзень рабіла налёт 300 самалётаў.

## «БЕДНАЯ» КАРАЛЕВА

Каралева Вялікабрытаніі Элізавета II звярнулася да парламента з просьбай аб павышэнні гадавой платы. Варта ведаць, што гэтая найбагацейшая жанчына свету, асабіста маёнтак якой ацэньваецца на дзесяткі мільёнаў фунтаў стэрлінгаў, мае да сваёй дыспазіцыі: 22 розныя карэты (у тым ліку 1 залатая), 3 санак і 14 аўтамабіляў.

Каралеўская сям'я карыстаецца 24 самаходамі, каралеўскім поездам, 3 самалётамі, 2 верталётамі і 1 яхтай. Трэба ведаць, што ўсё гэта аплочваецца грашыма з дзяржаўнага бюджэта. (А. К.)

## НАСУСТРАЧ ЗНАМЯНАЛЬНАМУ ЮБІЛЕЮ

Савецкая Беларусь, як і ўсе народы краіны Саветаў, добра падрыхтавалася да сустрэчы 1972 года, які з'яўляецца 50-тым годам існавання шматнацыянальнай Савецкай дзяржавы — СССР.

Працоўныя Беларусі датэрмінова завяршылі выкананне гадавога плана па рэалізацыі прамысловай прадукцыі і вытворчасці большасці важнейшых відаў вырабаў. Аб'ём прамысловай вытворчасці ў 1971 годзе ўзрос на 12 працэнтаў у параўнанні з папярэднім годам. Упершыню ў сваёй гісторыі Беларусь сабрала амаль па 22 цэнтнеры збожжа з гектара. Дзяржаве прададзена больш за 670 тысяч тон беларускага хлеба, у тым ліку 170 тысяч тон звыш плана. Гаспадарка БССР добра падрыхтавалася на сустрэчу знамянальнаму юбілею.

## ДЗЕ ЛЁН БЛАКІТНЫ

З Брэста паведамляюць, што ў паўтара раза перавыканаў абавязацельствы па продажу льновалакна дзяржаве калгас «За Радзіму» Столінскага раёна. 115 гектараў даўгунцу вырошчвалася ў гэтай гаспадарцы. У многіх калгасах вобласці, у тым ліку і ў раёнах Столінскім і Баранавіцкім, дзейнічаюць уласныя льнозаводы.

## З НАГОДЫ 100-ГОДДЗЯ

Намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР І. Ф. Клімаў уручыў узнагароды вялікай групе рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых Беларускай чыгункі ў сувязі са стагоддзем з дня яе заснавання.

## НАВУЧАННЕ МУЗЫКІ

Ніводная ўрачыстасць не абыходзіцца сёння ў вёсцы без музыкантаў. Аднак не ва ўсіх калгасах і саўгасах яны ёсць. У Слонімскім раёне вырашылі рыхтаваць іх на месцы і адкрылі музычныя студыі ў вёсках Жыровічы і Азярніца. У музычных студыях вучацца юнакі і дзяўчаты з навакольных вёсак.

## ГРОДЗЕНСКІЯ МАСТАКІ

Першая мастацкая выстаўка была арганізавана ў Гродне яшчэ 25 год таму назад. Свае працы дэманстравалі тады дэмабілізаваныя воіны. Гэтая выстаўка паклала пачатак творчай дзейнасці гродзенскіх жывапісцаў. Сёння ў Гродне жыве і працуе шмат таленавітых мастакоў. Найбольш сярод іх вядомыя В. Савіцкі, І. Пушкоў, М. Плужнік, Л. Налівайка і М. Апёка. Творы гродзенскіх мастакоў упрыгожваюць палацы культуры, рабочыя клубы, школы і ўстановы горада.

## ГОСЦІ З ПОЛЬШЧЫ

Звычайна ў Горацкі раён прыязджаюць госці з Польскай Народнай Рэспублікі, каб агледзець мемарыяльны комплекс у мясцовасці Леніна. На гэты раз прыбыла дэлегацыя польскіх кааператываў, спецыялістаў па сельскай гаспадарцы. Госці наведалі мемарыяльны комплекс у Леніна і засталіся ў раёне, каб пераняць вопыт паспяховага дзеяння калектыўнай гаспадаркі. (вр)

## У ГОНАР ППР

Па ўсёй краіне адбываюцца ўрачыстасці, звязаныя з 30-годдзем утварэння Польскай рабочай партыі.

На ўрачыстых сустрэчах з ветэранамі камуністычнага руху, на акадэміях сустракаюцца партыйныя дзеячы, прадстаўнікі цэнтральнага кіраўніцтва, сакратары ваяводскіх камітэтаў з грамадствам, каб падкрэсліць вялікія заслугі дзеячоў ППР у барацьбе з гітлерызмам, у стварэнні праграмы сацыялістычнага будаўніцтва, у пасляваенным адбудаванні краіны.

На ўрачыстай акадэміі ў Забжы, дзе сабраліся прадстаўнікі колькасна найбольшай, катовіцкай ваяводскай партарганізацыі, прысутнічаў I сакратар ЦК Эдвард Герэк. З дакладам выступіў I сакратар ВК партыі ў Катовіцах З. Грудзень.

I сакратар ЦК Эдвард Герэк быў таксама на сустрэчы экзекутывы ВК партыі ў Любліне з арганізатарамі ППР на Люблінічыне, з былымі ўдзельнікамі руху Супраціўлення і сучаснымі дзеячамі грамадскага і палітычнага жыцця ў ваяводстве. На сустрэчы многія ветэраны камуністычнага руху атрымалі высокія дзяржаўныя ўзнагароды.

Падобная сустрэча ветэранаў рабочага руху з Э. Геркам адбылася і ў Аполі.

## У БЕЛАСТОКУ

5 студзеня ў будынку ВК партыі адбылася сустрэча з заслужанымі дзеячамі і актывістамі ППР.

На сустрэчы прысутнічалі член Палітбюро і сакратар ЦК ПАРП Э. Бабюх, старшыня Цэнтральнай рэвізійнай камісіі А. Лашэвіч, I сакратар ВК партыі ў Беластоку З. Куроўскі. Удзельнічала ў сустрэчы каля 60 найбольш заслужаных дзеячоў рабочага руху на Беласточчыне. Найлепшыя гады свайго жыцця яны аддалі барацьбе за народную ўладу, за ўмацаванне яе ў цяжкія пасляваенныя гады. Некаторыя з дзеячоў пачалі сваю камуністычную біяграфію яшчэ ў гады Кастрычніцкай рэвалюцыі, іншыя — у гады міжваенна-га дваццацігоддзя.

З шырэйшай праграмай выступіў на сустрэчы Э. Бабюх, падкрэсліваючы што праграму грамадскіх перамен, якую накрэсліла ППР, паслядоўна выконвае Польская аб'яднаная рабочая партыя. У пастановах VI з'езду партыі гаворыцца аб аб'яднанні ўсіх сіл грамадства для паляпшэння быту працоўных, для паляпшэння метадаў кіравання гаспадаркай.

На сустрэчы выступіў таксама новы I сакратар ВК у Беластоку З. Куроўскі.

У гэты ж дзень грамадства Беласточчыны, аддаючы гонар загінуўшым у барацьбе за новую, сацыялістычную Польшчу, усклала белыя і чырвоныя гваздзікі на магілах змагароў на камунальных і вайсковых могілках, а ля памятных месц і ля магіл змагароў стаяла ганаровая варта.

Больш 600 дзеячоў ППР з нашага ваяводства атрымала высокія дзяржаўныя ўзнагароды, прызнаныя Радай Дзяржавы.

У святкаванне 30-годдзя ППР уключылася таксама моладзь і іншыя арганізацыі. (яч)

## ПЛЕНУМ ВК ПАРТЫІ

5 студзеня ў Беластоку адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта партыі, прысвечанае арганізацыйным справам і выкананню задач, пастаўленых перад партыяй на VI з'ездзе. Прысутнічалі на пасяджэнні член Палітбюро, сакратар ЦК тав. З. Бабюх і інспектар арганізацыйнага аддзела ЦК тав. В. Главацкі.

Ад імя Палітбюро ЦК і экзекутывы ВК Э. Бабюх запрапанаваў наступныя змены ў складзе сакратарыяту Ваяводскага камітэта: у сувязі з выбарам дагэтуляшняга I сакратара ВК А. Лашэвіча на пасаду старшыні Цэнтральнай рэвізійнай камісіі, а таксама з пераходам сакратара С. Кудлы на пенсію, а сакратара А. Младзяноўскага на пасаду прэзаса беластоцкай дэлегатуры НІК, звольніць іх з абавязкаў сакратароў і выбраць на пасаду I сакратара ВК партыі члена ЦК, дагэтуляшняга старшыню ГП ЗМВ Здзіслава Куроўскага, а на пасаду сакратароў ВК таварышаў Яна Стомпара, дагэтуляшняга інспектара сельскагаспадарчага аддзела ЦК, і Яўгена Златажынскага, дагэтуляшняга I сакратара ПК партыі ў Сувалках.

Пленум аднагалосна адобрыў кандыдатуры і выбраў іх на прапанаваныя пасады.

У другім пункце парадку дня сакратар ВК Ул. Юшкевіч прадставіў ацэнку дзейнасці ваяводскай партарганізацыі ў прамысловасці і ў сельскай гаспадарцы і накрэсліў новыя заданні ў выкананні пастаноў VI з'езду партыі.

На заканчэнне пленума Ваяводскі камітэт партыі прыняў пастанову, у якой абавязаў экзекутыву ВК і паветовыя камітэты апрацаваць планы пасляз'ездаўскай працы, прыняўшы пад увагу ўсе заданні, вынікаючыя з пастаноў VI з'езду партыі.

*Кароткія біяграфіі новавыбраных сакратароў ВК*

### ЗДЗІСЛАЎ КУРОЎСКІ

Нарадзіўся ў 1937 годзе ў Ёньцу (Плонскі павет, Варшаўскае ваяводства) ў рабочай сям'і. Грамадскую дзейнасць пачаў яшчэ ў школьныя гады ў ЗГП, затым у ЗМП. Атрымаў вышэйшую адукацыю ў галіне эканомікі сельскай гаспадаркі (скончыў СГГВ). У 1964—66 гадах быў членам экзекутывы варшаўскага ВК партыі, ад 1966 года быў старшынёй ГП ЗМВ. На V з'ездзе быў выбраны намеснікам члена ЦК, а на VI з'ездзе — членам ЦК партыі. Ад 1966 года быў членам сельскагаспадарчага бюро пры ЦК. З'яўляецца членам прэзідыума Цэнтральнага саюза сельгасгурткоў і ад 1969 года — пaслом у Сейм.

### ЯН СТОМПАР

Нарадзіўся ў 1932 годзе ў Канэцкім павеце на Келеччыне ў рабочай сям'і. У 1957 годзе скончыў сельскагаспадарчую акадэмію ў Маскве. У 1963—66 гадах працаваў у ВК у Лодзі, а ад 1967 года — у сельскагаспадарчым аддзеле ЦК.

### ЯЎГЕН ЗЛАТАЖЫНСКІ

Нарадзіўся ў 1928 годзе ў сялянскай сям'і ў вёсцы Альшанка на Сувальшчыне. У 1964 — 68 гадах атрымаў вышэйшую адукацыю ў ВСНС у Варшаве. У апошнія гады працаваў у ПК у Сувалках, а ад 1970 года быў яго I сакратаром. (яч)




**Niedziela 16.I.**

7.55 Program dnia. 8.00 TV Kurs Rolniczy: „Ekonomika produkcji trzody chlewnej". 8.35 „Przypominamy, radzimy". 8.45 PKF. 9.00 Dla młodych widzów: TV Klub Śmiałych. 10.20 „Spotkania płockie" („Wizerunki miast"). 10.55 „Warszawa w odbudowie i piosence". 11.25 Sprawozdania sportowe. W przerwie 11.50 Dziennik. 13.30 Dla dzieci: „Autobus czerwony". 14.20 „Węgiel, lancet i hobby" — teleturniej. 15.10 „Przemiany". 15.40 „Z dziejów Zamku" — film TVP. 16.10 Sprawozdanie z Mistrzostw Europy w jeździe figurowej na lodzie. Pokazy mistrzów (Goeteborg). 18.00 „Inna twarz pomnika". „Miłość pani Gabrieli" („Żywoty pań sławnych"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Człowiek z M-3" — film fab. pol. 21.35 Magazyn sportowy. 22.05 Estrada Literacka: „Z ruin powstała". Scenariusz — Zb. Jerzyna.

**Poniedziałek 17.I.**

15.20 i 23.05 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 17.55 „Warszawska opowieść" — film pol. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: J. Szaniawski — „Dwa teatry". 21.35 „Suita Warszawska" — koncert w rocznicę wyzwolenia Warszawy. 22.45 Dziennik.

**Wtorek 18.I.**

8.25 „Sygnet z Syreną" — film fab. węg. cz. I. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Czy znasz polskie góry?". 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — L. Pirandello — „Tak jest, jak się państwu zdaje". 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Pomoc przy porodzie i pielęgnacja noworodka". 15.20 i 23.35 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Telewizyjny Ekran Młodych. 17.45 Sprawozdanie z finałowego meczu koszykówki mężczyzn. Turniej Wyzwolenia Warszawy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Koncert Jubileuszowy z Teatru Wielkiego. 21.35 „Gdzieś w Uwarowie" — reportaż. 21.45 „Ex libris" — magazyn książki. 22.15 Dziennik.

**Środa 19.I.**

9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Ciśnienie w cieczach". 10.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „W słońcu i w cieniu". 11.20 „Jane Seymour" — film ang. odc. III („Sześć żon Henryka VIII"). 12.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Sól kamienna". 13.40 „Wybieramy zawód". 15.20 i 22.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Galeria na medal". 17.30 Magazyn ITP. 17.45 „W pętach przepisów". 18.15 „Poznajmy przyrodę" — film wł. 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Czy wypadek można przewidzieć?" („Polak pracuje"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Jane Seymour" — film ang. odc. III („Sześć żon Henryka VIII"). 21.35 „Światowid". 22.05 „Cukier i płyty" — rep. 22.15 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Czwartek 20.I.**

8.15 Matematyka w szkole: „Metodyka rozwiązywania zadań" cz. IV. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Język polski — B. Prus „Anielka". 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — „Publicystyka XX wieku". 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Język polski — „Karol Szymanowski". 13.50 i 14.35 Mechanizacja Rolnictwa: „Mechanizacja zabiegu ochrony roślin cz. I i II. 15.20 i 22.25 Politechnika TV I roku. Chemia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.45 „A ja ciągle czekam" — piosenki Marceli Laiferovej. 18.00 PKF. 18.10 „Poligon". 18.40 TV Kurier Lubelski. 18.55 „Włodzimierz Lenin" — film dok. radz. (w 48 rocznicę śmierci). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Przypominamy, radzimy". 20.10 Teatr Sensacji: J. Janicki — „Człowiek bez nazwiska" odc. II („Umarłem, aby żyć"). 21.15 „Profesor Dławiduda i jego uczniowie" — opera kameralna G. Paisiello. 21.55 „Znak jakości" — rep. 22.05 Dziennik.

**Piatek 21.I.**

8.00 TV Kurs Rolniczy dla agronoma i zootechnika: „Organizacja gospodarki uproszczonej i specjalistycznej". 9.20 „Sygnet z syreną" — film fab. węg. cz. II. 10.55 Dla Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Lefitymacja". 11.55 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wychowanie plastyczne — „Plakat". 12.45 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Zasada zachowania energii". 15.20 i 23.05 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.35 Sprawozdanie ze startu rajdu do Monte Carlo. 18.25 „Nie tylko dla pań". 18.40 TV Kurier Mazowiecki. 18.55 „Gramy o telewizor" — teleturniej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Gallux super show" — wydanie sylwestrowe. 20.30 „Kraj". 21.10 Teatr TV: Kalidasa — „Siakuntala". 22.40 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Sobota 22.I.**

8.10 „Modelka" — film fab. USA. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Nad środkową Odrą i górną Wartą". 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Układ krwionośny". 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Biologia — „Teoria ewolucji Karola Darwina". 15.50 Program dnia. 15.55 Program I proponuje. 16.15 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.30 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Konkurs 5 milionów". 17.45 „Bieg po zdrowie". 18.05 TV Informator Wydawniczy. 18.30 „Godzina Orfeusza" — magazyn aktualności muzycznych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Teatr Rozrywki: P. Karvas — „Komedia o lordzie Carltonie". 21.20 Dziennik. Wiadomości sportowe. 21.40 „Modelka" — film fab. USA. 23.20 „To wszystko było wczoraj" — program rozr. czechosłowacki.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## Напрыклад на Бельшчыне...

Сёння знайсці добрую кнігу няцяжка. На паліцах кнігарань паяўляюцца ўсё новыя загалоўкі, разрастаюцца кнігазборы бібліятэк. Для прыкладу, у бібліятэках Бельскага павету знаходзіцца каля 134 тысяч пазіцый, а колькасць выпазычанняў у першым паўгоддзі 1971 года склала каля 168 тысяч кніг. І гэта ў тым часе, калі насельніцтва павету агулам каля 74 тысяч асоб. Словам, на Бельшчыне людзі любяць кнігу. Таму, між іншым, Прэзідыум ПРН у Бельску дадаў у бягучым годзе павятовай бібліятэцы 100 тысяч злотых на набыццё новых кніжных выданняў.

Кіраўнік павятовай бібліятэкі ў Бельску Анатоль Пасынюк шмат стараўся, каб папраціць стан памяшканняў грамадскіх бібліятэк і чыталень. Меў маральную і грашовую падтрымку з боку большасці прэзідыумаў грамадскіх радаў. І справы выразна папраўіліся амаль усюды — на кнігі перастала сыпацца пацяруха са змуршэлых полапаў, і печы сталі грэць, і прыбіральшчыцы часцей заглядаць, і памяшканні знайшліся абшырнейшыя і святлейшыя. А ў Боцьках, Бранску і Орлі бібліятэкі поўнасцю адпавядаюць сучасным вымаганням гэтых культурных устаноў.

Так, у Бельскім павеце ўмеюць беражліва адносіцца да кнігі і патрапяць таксама выходзіць з ёю да людзей. Вось хаця б працаўніца бібліятэкі ў Пасынках Валянціна Весялоўская. Тры гады таму назад, калі яна пачынала працаваць у Пасынкаўскай грамадзе, гэты вялікі раён з дзевяццю бібліятэчнымі пунктамі быў запушчаны, нерасчытаны. Але В. Весялоўская не апусціла рук, узялася да справы з сэрцам і развагай. Перш за ўсё наладзіла на-



*Лідзія Радышук — загадчыца інструкцыйна-метадычнага аддзела павятовай бібліятэкі ў Бельску падбірае беларускія кнігі для грамадскіх бібліятэк.*

лежнае супрацоўніцтва з настаўнікамі, заахвоціла да чытання школьнікаў, удала правяла чытальніцкія конкурсы, і кніга стала пастаянным жыхаром у сялянскіх хатах. Энергічная бібліятэкарка паклапацілася і пра дадатковыя сродкі для бібліятэкі, здабыла іх у міжгуртковай машыннай базе, у Прэзідыуме грамадскай рады.

Ад Лідзіі Радышук — загадчыцы інструкцыйна-метадычнага аддзела Павятовай бібліятэкі ў Бельску — даведваюся, што ў 12 грамадскіх, гарадской бельскай бібліятэках і ў 65 бібліятэчных пунктах павету ёсць разам 5440 беларускіх кніг. Яны маюць 1280 сталых чытачоў, за паўгода яны пазычылі каля 5000 кніг. Найбольшай папулярнасцю беларуская кніга карыстаецца ў грамадах Плёскі, Рыбалы, Пасынкі. Любяць там беларускую кнігу і цікавяцца кожным новым набыткам.

Аднак знайсці беларускую кнігу ў кнігарнях цяжка. Проста вельмі мала яе паяўляецца і не заўсёды тое, чаго патрабуюць чытачы. Найбольшым поспехам карыстаюцца кнігі для дзяцей і моладзі, аб партызанскім руху, пра сучаснае жыццё ў Савецкай Беларусі. І працаўнікі павятовай бібліятэкі робяць што могуць, каб задаволіць чытачоў. Яны ўтрымліваюць штодзённую сувязь з кнігарняй савецкіх выданняў у Бельску, рэгулярна заказваюць навінкі па каталагу «Новыя кнігі БССР», набываюць патрэбныя пазіцыі ў Беластоку. Словам, у павелічэнні беларускага кнігазбору прыкладаюць шмат намаганняў. Не пакідаюць таксама, беларускую кнігу на самацёк у яе папулярызацыі. У Бельску ў гэтым добрая традыцыя. Раз у квартал, на павятовым семінары бібліятэкараў выкладчыкі беларускай мовы бельскага ліцэя праводзяць спецыяльныя заняткі па выбраных праблемах беларускай літаратуры і мовы, робяць агляды творчасці вядучых беларускіх пісьменнікаў і сучасных здабыткаў беларускай літаратуры. І гэта карысна ўздзейнічае на павышэнне зацікаўлення беларускай кнігай самых бібліятэкараў. Яны ўсё часцей арганізуюць у сваіх бібліятэках выстаўкі, чытальніцкія конкурсы, вечарыны казак для дзяцей і цікавай кнігі для дарослых. Да актыўных прапагандыстаў беларускай кнігі належаць Валянціна Весялоўская з Пасынкаў, Зіна Кудэрская з Галадоў, Ніна Тамашук з Рыбалаў, Тэрэса Лабасюк з Боцькаў. Яны і самі ахвотна чытаюць беларускую літаратуру і заахвочваюць да чытання яе сваё асяроддзе.

Цяпер у бібліятэкараў Бельшчыны гарачы час: аб'яўлен чытальніцкі конкурс «Ідэі Польскай рабочай партыі вечна жывыя». Эліміначыі будуць праходзіць і ў грамадах і на павятовым узроўні. Прадбачваюцца цікавыя мерапрыемствы для грамадства і каштоўныя ўзнагароды для пераможцаў.

Так, на Бельшчыне ўмеюць працаваць з кнігай.

*Мікалай Гайдук*




*У аддзеле дзіцячай кнігі гарадской бібліятэкі ў Бельску заўсёды пануе прыемная атмасфера.*




## Нарадзіўся чалавек

І невядома, якую долю спашле яму лёс. А лёс у даўнія часы для дзіцяці селяніна ці рабочага быў надта ж жорсткі і несправядлівы. Таму ўсе дарослыя яго родзічы і блізкія ўчынялі ўсё магчымае, каб толькі прыхіліць яму долю-шчасцейка, а маці — здароўечка. І выконваліся для гэтага розныя дзеянні ды захоўваліся ад вякоў прынятыя παводзіны, што павінны былі забяспечыць самае добрае і нованароджанаму, і яго сям'і. Слову ж ды песні пры гэтым адводзілася асабліва важнае месца. «Дай жа, Божа, на жыццё, на быццё, на добрае здароўе, на доўгі век!» — жадаюць кумы і госці, узносячы застольны тост на хрысцінах, і ў хаце лунае песня:

А ў нядзельку раненька
На небе заднела.
Купалачка дзіцятка носіць
І ў Бога долі просіць:
— І дай жа, Божа, дзіцяці
Добрую долю ўбачыць:
І хлебавую, і салявую,
Трэцюю — здаровейкавую,
А сілачку — багатырскую.
А волю — свабодную.

Побач з пажаданнямі радзінная паэзія беларускага народу прасякнута жывым гумарам і гуллівасцю, дзе галоўнымі асобамі з'яўляюцца бабка-павітуха, кум ды кума. Аддаўшы належны гонар і ўшанаванне бабцы і злёгку пасмяяўшыся з яе, удзельнікі хрысціннай бяседы ўсю сваю ўвагу засяроджваюць на кумах. Пад іх адрасам і жарты адпускаюцца, гуллівыя прыпеўкі ды вясёлыя тэмпераментныя песні ім пяюцца.

●Беларус любіць жарт, тонка адчувае дасціпнае слова, не прапусціць выпадку лагодна пасмяяцца з каго-небудзь і трапна адпарыруе любую колкасць. Такі ўжо ў яго характар. А дзе ж больш было разгарнуцца народнаму гумару, як не на хрэсьбінах або вяселлі?» — піша М. Я. Грынблат у артыкуле «Беларуская радзінная паэзія», які адкрывае чарговы том акадэмічнага выдання беларускай народнай творчасці, што ў канцы 1971 года выйшаў у Мінску пад загалоўкам «Радзінная паэзія»[1]).

Том «Радзіннай паэзіі» склаў, усістэматызаваў і пракаменціраваў заслужаны беларускі вучоны Міхаіл Грынблат. Музыказнаўца В. І. Ялатаў ва ўступным артыкуле «Напевы радзінных песень» упершыню ў навуцы даў глыбокі музыкалагічны аналіз меласу беларускіх песень.

У гэтым абшырным — у 782 старонкі — старанна выдадзеным томе змешчана 512 песень і іх варыянтаў, значная колькасць з іх мае нотны запіс. Апрача гэтага, у раздзеле «Хрэсьбінныя прымаўкі, прыгаворкі і жарты» ёсць творы, тэматычна звязаныя з гэтым відам вуснай народнай творчасці. Кожны змешчаны ў томе твор мае навуковую метрыку, а паказальнікі геаграфічны і асабовы збіральнікаў надта ж аблягчаюць карыстанне выданнем.

Цэннасць тому «Радзіннай паэзіі» заключаецца і ў тым, што, падобна як усе іншыя віды вуснай народнай творчасці ў наш час, «прыкметна звузілася кола хрэсьбінных песень, якія выконваюцца зараз на радзінах. З даўніх абрадавых песень найбольш захаваліся велічальныя да парадзіхі і бабкі і жартоўныя «кумаўскія» песні». Змешчаныя ў кнізе творы проста ўратаваны для нас і нашых нашчадкаў ад забыцця і пэўнай страты. А тым больш, што «асноўны ж від радзіннай паэзіі — хрэсьбінныя песні — застаўся здабыткам толькі беларусаў, — сцвярджае М. Я. Грынблат. — Відаць, адпаведныя гістарычныя і сацыяльна-эканамічныя ўмовы, а магчыма і фактары этнічнага характару, у адным выпадку прывялі да знікнення хрэсьбінных песень у рускіх і ўкраінцаў, а ў другім выпадку спрыялі захаванню іх у беларусаў».

Том уносіць таксама вялікі ўклад у кампаратывістычнае даследаванне вуснай народнай творчасці іншых славянскіх, суседніх з беларускім, народаў. Як засігналізаваў М. Я. Грынблат ва ўспомненым артыкуле, нашыя хрэсьбінныя песні зрабілі значны ўплыў на паяўленне гэтага віду народнай творчасці ў рускім, украінскім і польскім фальклоры.

*Мікалай Гайдук*

---

[1]) Радзінная паэзія, Акадэмія навук Беларускай ССГ, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, Мінск 1971.

## Бібліятэчка „Нівы"

*КАРУСЬ КАГАНЕЦ (Казімір Кастравіцкі) нарадзіўся 10 лютага 1868 г. у Табольску ў сям'і ўдзельніка паўстання 1863 г., высланага ў Сібір. Вучыўся ў Мінскім гарадскім вучылішчы. Быў адным з заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады, двойчы сядзеў у мінскім астрозе. Памёр 20 мая 1918 г.*

*Літаратурную дзейнасць пачаў у 90-я гады мінулага стагоддзя, друкаваўся ў рускіх газетах, пасля супрацоўнічаў у «Нашай ніве», склаў «Беларускі лемантар, або першую навуку чытання». Пісаў вершы, апавяданні, драмы, апрацоўваў беларускія народныя казкі і легенды. Аўтар вядомай камедыі «Модны шляхцюк».*

КАРУСЬ КАГАНЕЦ

## Што кажух, то не вата

Давялося раз зімой гарадскому панічу паехаць у двор на імяніны.

Прыехаўшы па чыгунцы на станцыю, ён пайшоў на сяло, што ад станцыі за паўвярсты было; каб падводу наняць, бо яшчэ трэба было вёрстаў з чатырнаццаць канём ехаць. Вось зайшоў ён у адну хату, а там якраз абедаць садзіліся. Ён зняў шапку і кажа:

— Дзень добры!

— Дзень добры! — адказваюць.

— Ці не завезлі б мяне туды і туды?

— Чаму ж не, можна, — кажа гаспадар, пагадаўшы.

— А колькі ж хочаце за хурманку?

— Аб цане то мы змяркуемся, а цяпер сядзьце, капусты сербаніце, бо да таго двара няблізка.

— Дзякую! я ўжо гарбату піў.

— Ну, як воля ваша.

Гаспадар, пад'еўшы, не спяшаючы, закурыў люльку, сказаў цану, катора панічу проці гарадскіх паказалася зусім малой, але ён з тым не пахваліўся: і яму грош, знаць, не дарма даецца. Пасля гаспадар апрануў кажух, надзеў шапку і пайшоў запрагаць. Запрогшы каня, прыйшоў у хату і, зняўшы з жэрдзі кажуха, дае яго падпрануць панічу; але паніч не адважыўся апрануць мужыцкага кажуха і кажа:

— Дзякую! у мяне пальто на ваце.

— Ну, як воля ваша, — кажа гаспадар. Аднак жа як ішлі садзіцца ехаць, то гаспадар узяў з сабой кажуха ў запас.

Вот яны едуць. Спачатку панічу цёпла паказалася, але, праехаўшы вёрстаў пяць, бачыць гаспадар, што паніч стаў корчыцца, каўнер настаўляць, шапку на вушы нацягваць і носам сёрбаць. Гаспадар і пытае:

— А можа кажух, паніч, надзенеш?

— Не! дзякую.

Едуць далей.

Праехалі яшчэ вярсты са дзве, бачыць гаспадар, што паніча сталі дрыжыкі прабіраць, і пытае:

— А можа кажух, паніч, надзенеш?

— А добра, бо штось халаднавата.

Даў яму кажуха апрануць і едуць далей. Ужо і да двара блізка, ажно бачыць гаспадар, што паніч неяк бледнаваты, дык пытае ў яго:

— А што, панічу, не сцюдзёна цяпер?

— О, не! цяпер цёпла.

— А можа паніч есці хоча?

— О, і дужа хачу.

— А што, панічу: што кажух, то не вата, а што капуста, то не гарбата? Але пацярпі паніч хвіліну, незабавам прыедзем! — І паказаў яму пугаўём на той двор, каторы ўжо відаць было.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## ФРОНТАМ ДА ВЁСКІ

### БЯСПЛАТНАЕ ЛЯЧЭННЕ СЯЛЯН

*Што значыць бясплатнае лячэнне сялян?*

Ад 1 студзеня 1972 года ўсе сяляне нашай краіны незалежна ад узросту і велічыні гаспадарак, на якіх працуюць, карыстаюцца бясплатным лячэннем. Значыць, у справе аховы здароўя цяпер яны маюць аднолькавыя правы з працуючымі на дзяржаўнай або спулдзельчай рабоце. Сяляне бясплатна карыстаюцца з візіт у лекараў і іншых працаўнікоў службы здароўя ў вясковых, гарадскіх, павятовых асяродках здароўя, а таксама ва ўсіх спецыялістычных лячэбніцах і тыпах шпіталяў.

За лякарствы сяляне плоцяць таксама, як усе іншыя ўбяспечаныя грамадзяне нашага краю, гэта значыць, 10 або 30 працэнтаў вартасці рэцэпту. Купляць лякарствы па рэцэпту можна ва ўсіх аптэках краіны.

Бясплатнай для сялян з'яўляецца таксама хуткая дапамога (ратунковае пагатове), паслугі артапедычных і іншых медыцынскіх кабінетаў, а таксама лячэнне ў здраўніцах, гэта значыць, у санаторных амбулаторыях і шпіталях.

*На якой падставе селяніна прыме лекар?*

Служба здароўя намерана выдаць сялянам спецыяльныя ўбеспячальныя кніжкі. Цяпер жа, пакуль такіх кніжак няма, іх заменяць спецыяльныя пасведчанні, выдадзеныя грамадскай радай. Значыць, выбіраючыся да лекара або да іншай установы аховы здароўя, неабходна мець пры сабе пасведчанне са сваёй грамадскай рады. Такія пасведчанні могуць атрымаць сяляне, якія працуюць на сваёй гаспадарцы, іх дзеці, старэйшыя асобы, што знаходзяцца на ўтрыманні гаспадароў, а таксама ўсе асобы, якія разам з гаспадаром жывуць і працуюць на гэтай гаспадарцы.

*Ці ўсе сяляне забяспечаны бясплатным лячэннем?*

Наша партыя і ўрад раней паклапаціліся пра тое, каб кожны чалавек — незалежна, ці працуе ён у сельскай гаспадарцы, у спулдзельні, ці на дзяржаўнай рабоце — атрымаў патрэбнае яму бясплатнае лячэнне. Таму да працы ў сельскай мясцовасці накіравана большая колькасць лекараў і іншых працаўнікоў службы здароўя, спешна закончана пабудова новых вясковых асродкаў здароўя, адкрыты новыя аптэкі і аптэчныя пункты. Лекары, што працуюць у вёсцы, маюць спецыяльныя дадаткі да сваіх заробкаў. Нарадовыя рады атрымалі спецыяльны загад урада, каб забяспечыць працаўнікоў службы здароўя ў вёсцы адпаведнымі кватэрамі. «У гэтай пяцігодцы, — чытаем у пастанове VI з'езду ПАРП, — павінна пабольшыцца на 16 200 ложак у шпіталях і клініках і на каля 500 асяродкаў здароўя на вёсках. Адначасова трэба пачаць пабудову новых шпіталяў». Значыць, усім сялянам гарантуецца бясплатнае лячэнне. (мг)



*Старшыня гуртка БГКТ у Баршчэве — Ірэна Круль.*

## Заснаваўся новы гурток БГКТ

21 снежня 1971 года адбыўся арганізацыйны сход гуртка БГКТ у Баршчэве, Беластоцкага павету. У школьнай зале сабралася вечарам 15 асоб: маладыя, дзяўчаты і юнакі. Усе яны мелі жаданне ўступіць у гурток БГКТ. Пасля запаўнення членскіх дэкларацый прысутныя выбралі праўленне гуртка ў складзе: Ірэна Круль — старшыня, Ліля Васько — сакратар і Галена Васько — скарбнік. Затым моладзь прыступіла да апрацоўкі плана працы гуртка БГКТ на 1972 год. Члены БГКТ з Баршчэва пастанавілі абсталяваць у сябе клуб селяніна, у якім маглі б арганізаваць розныя культурныя мерапрыемствы, а таксама заняцца мастацкай самадзейнасцю і г.д. Сход вёў член праўлення павятовага аддзела БГКТ у Беластоку Я. Цялушэцкі.

Тэкст і фота: (яц)



*Дзяўчаты з Баршчэва запаўняюць членскія дэкларацыі.*

## ПАКУЛЬ ВОДАПРАВОД — ПАТРЭБНА ДОБРАЯ СТУДНЯ

У цэлай нашай краіне вадою з водаправодаў карыстаецца ўсяго каля 10 працэнтаў сялянскіх гаспадарак. На Беласточчыне маем толькі 61 гідрафорню і водаправод. Ліміт выдаткаў на пабудову водаправодаў у 1971—1975 гадах складае суму 113 мільёнаў злотых і з'яўляецца становуча замалы ў адносінах да запатрабавання на водаправоды. Варта пры тым адзначыць, што ў Беластоцкім ваяводстве каля 500 вёсак адчувае пастаянны або кароткатэрміновы недахоп вады. У тым ліку недахоп вады адчуваюць 83 вёскі ў Беластоцкім павеце. У многіх выпадках абнізіўся ўзровень вады ў студнях, якія знаходзяцца на тэрыторыі меліярацыйных аб'ектаў або ў іх суседстве. Як тады выглядае справа пабудовы водаправодаў у гэтым павеце? Ёсць тут 7 водаправодаў з размеркавальнай сеткай даўжынёю да 13 кіламетраў. У тых вёсках, дзе ёсць водаправоды, толькі 180 гаспадароў падключыла ваду да сваіх гаспадарак. Падключэнне вады да паасобнай гаспадаркі — рэч каштоўная. Шкада, што дагэтуль не вырашана справа так, каб за правядзенне водаправода можна было сплачваць ратамі, так, напрыклад, як за падключэнне электраэнергіі.

Зараз водаправодамі карыстаюцца жыхары Зуброў, Новага Александрова, Дарожак, Лужан, Тыкоціна, Крыніцы Беластоцкай і г.д. Пабудова водаправодаў заканчваецца ў Дабжыневе Вялікім і Богдане. У Дабжыневе Вялікім пры пабудове водаправода ўпершыню выкарыстаны трубы ПЦВ (з паліхлёрку вінілю) замест азбеста-цэментных. Трубы з ПЦВ значна таннейшыя. Да таго пры іх пракладцы непатрэбны шырокія равы, шлямаванне іх, а таксама непатрэбны над імі мосцікі. Такім чынам можна скараціць цыкл пабудовы водаправодаў. Аднак на беластоцкіх будовах трубы ПЦВ уведзены толькі на двух будовах: у Дабжыневе і ў Пентках Гронскіх (Высокамазавецкі павет). У 1972 годзе ў Беластоцкім павеце распачнецца пабудова водаправоднай сеткі ў Гарадку, у Міхалове і ў Явароўцы. У далейшым водаправоды будуць пабудаваны перш за ўсё ў раёнах шырока развітай жывёлагадоўлі. Артэзіянскія студні будуць пабудаваны ў Юхноўцу Дольным і ў Крушэве. У Гайнаўскім павеце пабудаваны коштам 2 мільёнаў злотых водаправод у Кляшчэлях, а таксама коштам да 1 мільёна злотых пабудаваны водаправоды ў кааператыве ў Макаўцы, у СУВ-е ў Нарве, у Клейніках, Арэшкаве, Дубічах Царкоўных і другіх вёсках.

У 1971 годзе на Беласточчыне аддадзены ў карыстанне 33 водаправоды. Зараз усіх водаправодаў на Беласточчыне маем 85. Пабудовай артэзіянскіх студняў і водаправодаў займаецца Беластоцкае прадпрыемства электрыфікацыі і забеспячэння вёскі вадою «Эльвод». Свой будаўнічы план «Эльвод» выконвае ў 85%. Мае ён клопаты з будаўнічымі матэрыяламі, як цэментам, дошкамі, арматурай і г.д., а таксама з кваліфікаванымі кадрамі. Не хапае дастатковай колькасці інспектараў будоў. З-за гэтага шматлікія гідрафорні і іншыя таму падобныя аб'екты маюць заганы. Найбольшыя затраты грошай атрымліваюцца з-за спозненай перадачы аб'ектаў да карыстання. Адчуваецца зараз недахоп кансерватараў водаправодных аб'ектаў. Неабходна стварыць умовы да навучання фахоўцаў да пабудовы водаправодаў. Усе прыгаданыя цяжкасці маюць адмоўны ўплыў на інвестыцыйны працэс. Ліквідаванне іх палепшыла б сітуацыю ў забеспячэнні вёскі вадою. Маем усё ж задарагія паслугі пры падключэнні вады да хат і сельскагаспадарчых будынкаў. Ды наогул няма каму імі займацца. І з-за гэтага часта бывае так, што водаправод нібы ёсць у вёсцы, а сяляне, па-ранейшаму ходзяць па ваду з насілкамі і парай вёдзер. Як агульнавядома, забеспячэнне вёсак дастатковай колькасцю вады — гэта вельмі істотная і важная справа. Ёсць шмат такіх гаспадарак, у якіх не брак пашаў, а іменна вады лімітуе развіццё жывёлагадоўлі. Гэта зразумела, калі возьмем пад увагу тое, што, напрыклад, карова патрабуе ў суткі 70 літраў вады, конь — 40, свінаматка — 75, авечка — 12 і г.д. Пара аднак перайсці ад водаправодаў да звычайных студняў, галоўных крыніц вады. Пабудавана іх у нашым ваяводстве 113 600. Сяляне будавалі іх дзе папала. Нічога тады дзіўнага, што амаль палавіна іх не адпавядае санітарным патрабаванням. У 2 905 студнях няма вады. Іх неабходна рамантаваць і паглыбляць. 55% ужываных студняў не мае пастаянных вёдзер.

У бягучай пяцігодцы ў нашым ваяводстве прадбачваецца пабудова 5 485 новых студняў: 1.107 студняў у Сакольскім павеце, 464 — у Сямяціцкім, 116 — у Беластоцкім, 85 — у Дуброўскім, 88 — у Бельскім і 27 — у Гайнаўскім павеце. СОП-ы будуць даваць пазыкі на рамонты і пабудову новых студняў. СУВ-ы і сельскагаспадарчыя гурткі будуць, між іншым, прадукаваць калодзежныя трубы. Вясковы гандаль забяспечыць сялян другімі будаўнічымі матэрыяламі, як дошкамі, цэментам, вапнай, сталёвымі лінамі і г.д. Можна будзе таксама пазычаць формы на калодзежныя трубы. Пакуль у кожнай вёсцы пабудуюцца водаправоды, добрая студня неабходная. Вёсцы патрэбна вада. Ад таго, як яна будзе забяспечана вадою, будзе многае залежыць; а перш за ўсё ўзрост жывёлагадоўлі і павышэнне ўзроўню гігіены.

*Янка Цялушэцкі*

Другім паэтам канца XVI ст. быў Андрэй Рымша. Прозвішча гэтага аўтара і фрагменты вершаў яго прыводзілі мы ўжо ў адрэзку «Беларускай літаратуры», прысвечаным Літоўскаму статуту. Ужо з прыведзенага там фрагмента відаць, што Рымша быў паэтам прыдворным, паэтам, які складаў вершы або ў чэсць нейкіх падзей, або ў гонар высокапастаўленых асоб. Няма сумненняў, што Рымша не меў вялікага паэтычнага таленту. Зразумела, што нельга яго скромнай спадчыны параўноўваць з узроўнем сучаснай паэзіі. Але нават пры найбольш ліберальных мерках і ацэнках, нават беручы пад увагу тое, што быў гэта перыяд зараджэння беларускай паэзіі, вершы Рымшы не выстаўляюць высокай ацэнкі свайму аўтару.

Апрача эпіграмы на герб Льва Сапегі, Рымша напісаў таксама эпіграму на герб другога выдатнага дзеяча Вялікага княстве Літоўскага Фёдара Скуміна. У творы сваім славіў ён вайсковыя заслугі Скуміна ў барацьбе з татарамі:

«Веру з мужествам отчізне своей заховалі.
Вер мі, гербов не дают в дому сідяшчэму,
Але з татарамі в полю часто гуляшчому.
Не з голою рукою, з шаблею острою,
Завжды будучы готов до смертного бою».

Апрача гэтых твораў, з-пад пяра Рымшы выйшла «Храналогія», выдадзеная ў 1581 г. у Астрогу. Верш гэты складаецца з 12 строф, прысвечаных паасобным месяцам. Першая страфа — гэта апісанне верасня, другая — кастрычніка, а іншыя — далейшым месяцам; апошняя прысвечана жніўню. «Храналогія», як і папярэднія вершы Рымшы, не мае большай літаратурнай вартасці.

Трэцім вартым увагі паэтам сямнаццатага стагоддзя з'яўляецца Ян Казімір Пашкевіч. Аб гэтым аўтары, так як і аб Рымшы, нічога не ведаем. Невядома, калі нарадзіўся, дзе і калі памёр, чым займаўся. Захаваўся толькі адзін верш Пашкевіча. Верш, які па сваёй тэматыцы карысна адрозніваецца на фоне беларускай паэзіі XVI і XVII ст. Вось верш Пашкевіча:

«Польска квітнеет лаціною,
Літва квітнеет русчізною;
Без тэй з Польсце не пребудеш,
Без сей в Літве блазном будеш.
Той лаціна язык дает,
Та без Русі не вытрвает.
Ведзь же юж Русь, іж тва хвала
По всем свете юж дойзрала;
Веселі ж се ты, Русіне,
Тва слава нікгды не згіне!»
22-VIII-1621

Гордасць за сваю мову і сваю айчыну Русь акрэслілі характар гэтага твора. Трэба шкадаваць, што не ведаем, кім быў Пашкевіч і не ўпэўнены, ці толькі прыведзены вышэй верш быў ім напісаны.




*фота А. Карпюк*

## Святкаванне гадавіны ППР

Урачыста адзначалі 30-ую гадавіну паўстання Польскай рабочай партыі вучні клейніцкай школы. Святкаванні распачаліся ўжо ў снежні, у гадавіну стварэння Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

Тут быў арганізаваны ўрачысты сход, вучні зрабілі дэкарацыю не толькі школьнага будынка, але дапамагалі пры дэкарацыі клуба гаспадара і іншых будынкаў.

У часе вечарыны вучні клейніцкай школы выступалі з артыстычнай часткай, выконваючы песні, чытаючы вершы. Найлепш, як заўсёды, спявалі Оля Парфенюк, Зіна Лабузінская і Зося Грыц (на здымку).

Своеасаблівы ўклад у святкаванне гадавіны ППР унеслі гарцэры. Планы гарцэрскай дружыны прадугледжвалі не толькі ўзбагачэнне ведаў пра ППР, але эмацыянальную сувязь моладзі з партыяй. Гарцэры, апрача ўрачыстых сходаў і вечарын, арганізавалі фотагазеты, масава прымалі ўдзел у грамадскіх чынах на карысць уласнага асяроддзя, сустракаліся з дзеячамі ППР.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

